*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 20(457) 24 ТРАЎНЯ 2000 г.

*Спадару Стражаву В.І.*
*Міністру адукацыі Беларусі*
*# 9, Савецкая, Менск*
*220010*

### Паважаны Васіль Іванавіч!

Вельмі шкада, што кіраўніцтва ТБМ не было запрошана 29 сакавіка для ўдзелу ў абмеркаванні праблемы стварэння ў Беларусі Беларускага Нацыянальнага Універсітэту, якое ладзіла Вашае шаноўнае міністэрства разам з прадстаўнікамі БДУ і БДПУ. Сярод сяброў Рэспубліканскай Рады ТБМ ёсць вядомыя пісьменнікі і навукоўцы, прафесары , дактары навук, акадэмікі. Лічым, іх думка таксама магла б прагучаць сярод іншых, часам, вельмі спрэчных меркаванняў.

На сённяшні дзень ТБМ ужо мае каля 30 тысячаў подпісаў грамадзян Беларусі з патрабаваннем адкрыцця ў краіне вышэйшай навучальнай установы, дзе б усе дысцыпліны, у тым ліку і замежныя мовы, выкладаліся б толькі на роднай, беларускай мове і дзе б вытрымліваўся адзіны моўны рэжым, у тым ліку і ў бухгалтэрыі.

Мы з павагай ставімся да тых невялічкіх агменьчыкаў беларушчыны ў ВНУ, якімі з'яўляюцца БДПУ і БУК. Аднак моўны рэжым там не вытрымліваецца і значная частка лекцыйных курсаў і дысцыплінаў выкладаецца не на мове тытульнай нацыі. Калі ж на ўстановы такога кшталту павесіць шыльду "нацыянальны" – нічога не зменіцца, бо там існуе шмат выкладчыкаў, якія ніколі не выкладалі і не будуць выкладаць па-беларуску. А прымусам, як вядома, нічога не зробіш. Затое ТБМ мае сёння спіс больш сотні выкладчыкаў (дацэнтаў і прафесароў), якія могуць і жадаюць выкладаць свае дысцыпліны па-беларуску. І трэба адзначыць, што гэты спіс расце штодня. Зараз мы збіраем спісы студэнтаў, якія ў любы момант гатовыя перайсці вучыцца ў вышэйшую навучальную ўстанову з выключна беларускай мовай выкладання. Бо мы трымаемся думкі, што БНУ мусіць стаць такім універсітэтам, куды патрапіць будзе вялікім гонарам як студэнту, гэтак і выкладчыку.

Што ж тычыцца Вашай спасылкі на фінансавыя праблемы, то мы лічым, што такой праблемы сёння проста не існуе. Дастаткова падлічыць тыя грошы, што былі выдаткаваныя дзяржаўнай уладай на святкаванне 9 мая ў нашай сталіцы і іншых гарадах Беларусі і, асабліва, тыя грошы, што пайшлі на вайсковы парад. Мяркуем, іх хапіла б мо і не на адзін год працы БНУ. Таму прапануем іменаваць рэчы сваімі імёнамі і пазначыць гэтую праблему не як эканамічную, а як палітычную. Але тады раім адказным асобам набрацца мужнасці і паведаміць грамадзянам Беларусі, што жывуць яны не ў незалежнай краіне, а ў адной з правінцыяў суседняй дзяржавы. Таму дзяржаўныя асобы, як і належыць, перш за ўсё рупяцца пра стан рускай мовы, як за часам Расейскай імперыі. Але ж падаецца, такая праўда не вельмі спадабаецца нашым грамадзянам, як і ўлада, што трымаецца такой палітыкі. Бо Вы ж цудоўна ведаеце, як чалавек адукаваны, што ўлада прыходзіць і сыходзіць, а беларуская мова перажывала і горшыя часы! Таму мы ўсё ж спадзяемся на Вашую разважлівасць і дасылаем Вам для абмеркавання праект канцэпцыі БНУ, які зараз надрукаваны ў газетах "Наша слова", "Беларуская маладзежная" і "Літаратура і мастацтва". Просім Вас прыняць асабіста для размовы па гэтым пытанні прадстаўнікоў кіраўніцтва ТБМ (3-5 чалавек) у канцы мая – пачатку чэрвеня 2000 года.

З павагай.

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

*P.S. Дарэчы, нездарма кажуць, што тэатр пачынаецца з гардэробу.*

*Пра якую беларускамоўную адукацыю можа весціся гаворка, калі фірмовы канверт Вашага міністэрства мае штамп-адрас толькі на адной (на жаль, не беларускай) мове. Разумны чалавек, атрымаўшы такі канверт, усё адразу разумее, нават не чытаўшы зместу ліста.*

## У Верхнедзвінску адрадзіла сваю дзейнасць ТБМ.

19 красавіка 2000 г. пастаўлена на ўлік раённая арганізацыя ТБМ у г. Верхнедзвінску на Віцебшчыне. Віншуем!

*Сакратарыят ТБМ.*

Беларуская мова-
ТБМ
наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Цішкоўская І.В. (Жыткавічы) | 1.000 |
| Мікола Дзямід (Менск) | 5.000 |
| Мікола Лавіцкі (Менск) | 1.000 |
| Аркадзь Галай (Менск) | 1.000 |
| Казлоўская І.І. (Менск) | 400 |

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ - справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Шаноўнае спадарства

Сёння мы можам нарэшце аб'явіць падпіску на "Наша слова". Яшчэ не выйшаў з друку асноўны каталог, але ў папераджальным з'явілася ўклейка, прынамсі ў Гарадзенскай вобласці, дзе ёсць і "Наша слова", і "Пагоня", і "Лідскі летапісец", і "Газета слонімская" і інш. Са свайго боку мушу зазначыць, што рэдакцыя "Нашага слова" ўсе аперацыі па ўключэнні газеты ў каталог выканала ў поўным аб'ёме і своечасова. Усе паперы пададзены, за ўсё заплачана.

Мы ні на капейку не падымалі цану на газету, а той рост, які вы бачыце выкліканы выключна ростам цаны на паслугі пошты. Калі так пойдзе далей, то хутка мы ўсе грошы за падпіскі будзем проста пакідаць на пошце, ды каб яшчэ вінаватымі не застацца.

Шаноўнае спадарства! Калі дзе здарыцца, што нашай газеты няма ў каталогу ці кампутары, упарта патрабуйце, каб яна туды была ўключана. На гэты раз мы нікуды не спазніліся, нідзе не памыліліся, і, нават іхнія законы на нашым баку.

Мы чакаем вашай падтрымкі.

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 441 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

## У ТБМ уступаюць знакамітыя людзі

За апошнія часы геаграфія мясцін, адкуль паступаюць заявы для ўступлення ў шэрагі ТБМ, значна пашырылася. На пасяджэнні Сакратарыяту, якое адбылося 13 красавіка, у сябры Таварыства быў урачыста прыняты вядомы беларускі дзеяч, пісьменнік Віктар Швед, які стала жыве ў Беластоку. У гэты ж дзень былі зарэгістраваны пяць новых суполак у Барысаве: Цэнтральная (3 сябры, старшыня сп. Мірскі А.З.), суполка "Нармандыя-Нёман" (3 сябры, старшыня Грышановіч А.А.), Ватуцінская (3 сябры, старшыня Зайчыкава П.П.).

Упершыню ўтвораная суполка ў Старых Дарогах на Меншчыне (4 сябры, старшыня Юрэвіч В.А.), суполка ў вёсцы Бобрык Пінскага раёну (6 сяброў, старшыня Тацяна Дзямчук), суполка ў вёсцы Ліпнікі на Піншчыне (7 сяброў, старшыня Аляксандр Думанскі) і суполка ў вёсцы Бярэжцы Жыткавіцкага раёну (14 сяброў, старшыня Мікола Румянцаў).

4 траўня ў шэрагі Таварыства быў урачыста прыняты адзін з самых знакамітых беларусаў свету, акадэмік, прафесар Барыс Кіт з Нямеччыны, старшыня Беларускага Саюзу ў Польшчы, гісторык Яўген Вапа, а таксама Андрэй Горват з Петрыкава, Максім Грамыка з Менску, Фелікс Шкірманкоў са Слаўгарада, Вера Касмовіч з Гарадзеі (Нясвіжскі раён). Зарэгістраваныя наступныя суполкі з Вілейскага раёну: Рускасельская (4 сябры, старшыня Тацяна Ганчарык), Нарачанская (4 сябры, старшыня Алесь Ганчарык), суполка на базе 4-ай сярэдняй школы г.Вілейкі (6 сяброў, старшыня Ганна Кулеш).

Такім чынам, кола нашых сяброў значна пашыраецца. Чакаем новых заяў.

*Сакратарыят ТБМ.*

## Ліда. Сабрана 7684 подпісы за БНУ

У Лідзе заканчваецца вясенні этап масавай акцыі лідскіх грамадскіх арганізацый па збору подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт. Сабрана 7684 подпісы. Зараз акцыю праддаўжаюць толькі актывісты ТБМ і "Маладога фронту". На апошнім этапе вызначылася Тарэса Карэйва, якая шляхам абходу кватэр і прадпрыемстваў сабрала 779 подпісаў.

Пры неабходнасці лідзяне гатовыя абвясціць асенні этап акцыі.



№ 20 (457) 24 ТРАЎНЯ 2000 г.

# ТБМ – НАБЫТКІ І ЦЯЖКАСЦІ

**Даклад Алега Трусава, старшыні ТБМ імя Францішка Скарыны на Рэспубліканскай радзе 16 красавіка 2000 года**

17 красавіка мінуў роўна год з тае пары, як адбыўся чарговы, шосты з'езд ТБМ. Чым займалася Таварыства ў гэты час? Што зроблена?

Найпершым клопатам Сакратарыята была перарэгістрацыя, якая, як вядома, завяршылася толькі 6 верасня 1999 года. Пасля гэтага пачалася штодзённая крапатлівая праца па пастаноўцы на ўлік у мясцовых выканкамах рэгіянальных структураў. Адной з першых атрымала Пасведчанне аб рэгістрацыі Менская гарадская арганізацыя. Добра працуе Віцебская абласная арганізацыя, дзе старшыня Іосіф Навумчык. Амаль ва ўсіх раёнах вобласці створаны структуры ТБМ, і большасць з іх ужо пастаўлена на ўлік. Шмат намаганняў прыклаў спадар А.І. Місцюкевіч, каб зарэгістраваць Гродзенскую абласную і шэраг раённых арганізацыяў. Пад кіраўніцтвам Генадзя Банкевіча хутка ва ўсіх раёнах Меншчыны будуць створаныя структуры Таварыства. Не так даўно на Сакратарыяце была зарэгістраваная Старадарожская суполка, дзе раней яе не было. Не кепска ідуць справы на Магілёўшчыне, дзе абласную арганізацыю ўзначальвае Міхась Булавацкі. Спадзяёмся, што не пазней як праз месяц і гэтая структура будзе зарэгістраваная.

Засталіся дзве вобласці - Гомельская і Берасцейская. На Радзе прысутнічаюць дэлегаты з гэтых рэгіёнаў. Яны правядуць устаноўчыя канферэнцыі па ўтварэнні абласных арганізацый.

На сённяшні дзень Таварыства налічвае не менш чым 5500 сяброў, прыхільнікаў беларускай мовы. Яны аб'яднаныя ў 62 арганізацыі (гарадскія, раённыя, абласныя), 38 з іх ужо зарэгістраваныя ў выканкамах, нягледзячы на перашкоды, якія чыняць мясцовыя чыноўнікі. Плануем закончыць гэтую кампанію да чэрвеня 2000 года.

Актывізавалася дзейнасць нашай арганізацыі за мяжой. Створаны суполкі ў Вільні, Рызе, Іркуцку, Маскве, С.-Пецярбурзе, Севастопалі, Нямеччыне. На днях затэлефанаваў Барыс Кіт. Ён выказаў жаданне стаць сябрам ТБМ і стварыць у Франкфурце-на-Майне, дзе ён стала пражывае, суполку Таварыства.

Агулам за справаздачны год створаныя 23 новыя суполкі ТБМ. Шмат добрых спраў на рахунку "Беларускай музычнай альтэрнатывы", Шаркаўшчынскай раённай арганізацыі. Хочацца адзначыць дзейнасць суполкі Віленскага краю, якую ўзначальвае Юры Гіль. Часцей за іншых яны распавядаюць аб сваёй працы на старонках "Нашага слова". І гэта натуральна, бо ім ёсць што сказаць.

Такім чынам, ТБМ на сёння – адна з самых масавых грамадскіх арганізацый, якая вытрымала пакуты перарэгістрацыі.

Пры Таварыстве створана 8 камісій: арганізацыйная ( старшыня - Алена Анісім), адукацыйная (Святлана Багданкевіч), камісія па зрокавым і гукавым афармленні асяроддзя (Сяргей Кручкоў), па сувязях з замежнымі краінамі (Сяргей Запрудскі), па культуры мовы, па тапаніміцы і гістарычнай сімволіцы (Анатоль Грыцкевіч), тэрміналагічная (Язэп Стэпановіч), выдавецкая (Кастусь Дадзькоў). Усе камісіі распачалі актыўную працу, за выключэннем камісіі па культуры мовы. Іх справаздачы будуць апублікаваныя ў "Нашым слове" з тым, каб рэгіянальныя структуры стваралі аналагічныя камісіі і праводзілі падобную канкрэтную працу, прадугледжаную Статутам Таварыства па наданні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай.

Напрыканцы 1999 года аднавіў сваю дзейнасць бацькоўскі камітэт пад кіраўніцтвам Валеры Палсцюка і двух сустаршыняў. У яго ўваходзяць бацькі, дзеці якіх вучацца, ці дамагаюцца навучання на беларускай мове. Бацькоўскі камітэт апублікаваў абвестку ў незалежных СМІ, а таксама ў "Звяздзе". Гэта дало яму магчымасць распачаць стварэнне банка дадзеных пра настаўнікаў, якія могуць і хочуць працаваць у беларускай школе, а таксама дзяцей, якія хочуць атрымаць адукацыю на роднай мове. Сябры бацькоўскага камітэта наведваюць школы і дашкольныя ўстановы, сустракаюцца з кіраўніцтвам органаў народнай адукацыі, звяртаюцца пісьмова ва ўрад Беларусі па пытаннях мовы навучання. Добра было б, каб такія бацькоўскія камітэты ўтварыліся ў абласных гарадах і раённых цэнтрах.

Пры Таварыстве створана і паспяхова працуе бібліятэка і Кніжны клуб, які ўзначаліў Зьміцер Цехановіч. Бібліятэка працуе тры разы на тыдзень. Штат складаецца з трох чалавек. Гэта студэнткі Беларускага універсітэта культуры, будучыя бібліятэкары. Зараз у фондах бібліятэкі каля 1000 адзінак кніг, з іх звыш 500 унікальных беларускіх выданняў канца 19 і пачатку 20 стагоддзяў. Апошнім часам бібліятэка папоўнілася 57 унікальнымі кнігамі, якія Таварыства атрымала ў дар з Амерыкі ад Вітаўта і Зоры Кіпеляў.

Выключна добра працуе Кніжны клуб. За няпоўныя пяць месяцаў Зміцер Цехановіч арганізаваў і правёў 11 акцый. Гэта сустрэчы з Артурам Вольскім, Янкам Брылём, Уладзімірам Арловым, Кастусём Тарасавым, Славамірам Адамовічам, Андрэем Федарэнкам, Алесем Камоцкім, Данутай Бічэль, Анатолем Грыцкевічам, Васілём Сёмухам, Эдуардам Акуліным і іншымі.

Пры Таварыстве працуе яшчэ адна новая структура – Відэаклуб, кіраўнік – Віталь Станішэўскі, студэнт Менскага лінгвістычнага універсітэта. Клуб збірае сваіх прыхільнікаў кожны тыдзень. На паседжаннях клуба дэманструюцца гістарычныя і фантастычныя відэастужкі ў перакладзе на беларускую мову, а таксама дубляваныя акцёрамі беларускіх тэатраў сусветна вядомыя дзіцячыя мультфільмы.

За мінулы год праца Сакратарыята па стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэта актывізавалася. Ініцыятыўная група, якая зараз налічвае каля 60 выкладчыкаў ВНУ, распрацавала Статут і Канцэпцыю будучай установы, якія былі апублікаваныя ў друку і вынесеныя на зацвярджэнне Рэспубліканскай Рады.

Ідзе актыўны збор подпісаў па ўсёй Беларусі за адкрыццё БНУ. Толькі жыхары г. Ліды і Лідскага раёна за апошнія месяцы сабралі больш за 6000 подпісаў за стварэнне БНУ. Улады зараз вымушаны прызнаць існаванне гэтай праблемы, пра што ідзе гаворка на экранах БТ і на старонках афіцыйных газет.

У 1999 годзе праведзены шэраг пікетаў: 25 траўня, 29 чэрвеня, 1 верасня, мітынг 10 верасня. Гэта былі акцыі за навучанне дзяцей на беларускай мове, у абарону назвы галоўнага праспекта сталіцы, за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта. 28 верасня ТБМ удзельнічала ў акцыі Вольнага прафсаюза ў абарону беларускай мовы.

Таварыства пастаянна звяртаецца ў розныя дзяржаўныя ўстановы, на прадпрыемствы па праблемах мовы. За год Сакратарыятам падрыхтавана больш за 100 лістоў-запытаў, зваротаў, скаргаў, прапаноў. Вынікам нашых стасункаў з Канстытуцыйным судом стаў дадатак да Кодэксу РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях: Артыкул 172 [2] "Парушэнне заканадаўства аб мовах", а таксама Указанне прэм'ер-міністра С. Лінга аб неабходнасці ўжывання афіцыйных бланкаў на абедзвюх дзяржаўных мовах, якое было дадзена 5 студзеня 2000 г. кіраўнікам органаў дзяржаўнага кіравання, аб'яднанняў, падначаленых Ураду , кіраўнікам аблвыканкамаў і Менскага гарвыканкама.

Сакратарыят неаднаразова хадайнічаў перад Упраўленнем і Міністэрствам адукацыі аб захаванні беларускамоўных класаў па просьбе бацькоў, якія звярталіся ў Таварыства. Дзякуючы гэтаму, беларускія класы былі захаваныя ў СШ № 191, 180, 37, 35 і гімназіі № 8 г. Менска.

ТБМ сумесна з ТБШ правялі конкурс на лепшую беларускую школу па захаванні нацыянальнай гістарычнай і духоўнай спадчыны. У конкурсе прымала ўдзел 50 школ з усіх абласцей краіны. Мы мелі невялікі грант, знайшлі спонсараў, што дазволіла нам адзначыць усіх удзельнікаў. Гэта - адмысловыя дыпломы трох ступеняў, распрацаваныя Кастусём Дадзьковым, бібліятэчкі кніжак і каштоўныя падарункі. Правядзенне конкурсу шырока асвятлялася на старонках беларускіх друкаваных выданняў.

27 чэрвеня 1999 года Таварыства адсвяткавала сваё дзесяцігоддзе. У гэты дзень быў адслужаны малебен за беларускі народ і беларускую мову ў галоўных храмах сталіцы, а таксама па ўсёй Беларусі. Увечары ў тэатральнай зале Чырвонага касцёла праведзеная ўрачыстасць з нагоды юбілею ТБМ.

У 2000 годзе Таварыства працуе па плане, зацверджаным Радай.

26 студзеня адбылося ўрачыстае паседжанне Рэспубліканскай Рады, прысвечанае 10-ым угодкам "Закона аб мовах", на якім выступілі Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Леанід Лыч. Пасля адбыўся канцэрт. А роўна праз месяц 26 лютага сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў была праведзеная навукова-практычная канферэнцыя "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы". На канферэнцыі адбылася прэзентацыя кнігі "Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы", падрыхтоўка якой працягвалася 4 гады. Распачынаў гэтую працу прафесар Аляксей Саламонаў, які ў 1996-98 гадах сабраў шмат матэрыялаў да зборніка. Асноўную працу па рэдагаванні выканала сябра Рады ТБМ Людміла Майсеня. Кніга выдадзеная накладам 1000 асобнікаў і зараз распаўсюджваецца па ўсім свеце. Таварыства збірае грошы, каб выдаць асобным зборнікам матэрыялы канферэнцыі "Закон аб мовах - вынікі і перспектывы", якія зараз друкуюцца ў "Нашым слове".

Дзякуючы ініцыятыве ТБМ і Саюза пісьменнікаў, У. Замяталіным у лютым падпісаная Пастанова і план мерапрыемстваў урада Беларусі па святкаванні 160-х угодкаў нараджэння Францішка Багушэвіча. Ужо пабачыў свет мастацкі немаркаваны канверт з выявай паэта. Арганізацыйная камісія падрыхтавала і правяла 21 сакавіка ў кінатэатры "Змена" вечарыну ў памяць Францішка Багушэвіча. Коштам Таварыства выдадзены кішэнны каляндарык з выявай класіка беларускай літаратуры ( мастак Мікола Купава), падрыхтаваная да друку паштоўка паэта (мастак Ігар Марачкін). У гэтым жа годзе выдадзеныя кішэнныя каляндарыкі на 2000 год: 10 гадоў ТБМ і Беларуская вайсковая сімволіка. З удзелам ТБМ выйшла папулярная кніга Кастуся Тарасава "Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей".

На працягу года сябрамі Таварыства праведзены шэраг сустрэч з творчымі людзьмі як у сталіцы, так і ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, а таксама за яе межамі. Па лініі Таварыства зроблена каля 30 камандзіровак. Шмат разоў сустракаліся з чытачамі аўтары кнігі "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі Уладзімір Арлоў і Генадзь Сагановіч. Таму наклад кнігі ў 5000 разышоўся за 4 месяцы. Дзесяткі выступленняў па краіне на рахунку сябра Рады Вольгі Іпатавай. Добрую палову Віцебшчыны аб'ехалі Генадзь Бураўкін і Іосіф Навумчык, слухачамі якіх былі тысячы людзей. У арганізацыі сустрэч добра праявілі сябе Баранавіцкая, Пінская і Клецкая арганізацыі.

Трэба адзначыць, што паспяхова праходзіць акцыя Таварыства па бязвыплатнай раздачы беларускіх кніжак для бібліятэк і музеяў, рэгіянальных структур і суполак. Мы раздалі за год каля 10000 асобнікаў кніг. Цікава, што чым больш мы аддаем, тым больш да нас іх вяртаецца. На днях мы атрымалі ўнікальныя кніжкі, у свой час выдадзеныя пры падтрымцы Фонду Сораса. Адзін выдавец падараваў Таварыству 1,5 тыс. дзіцячых кніжак. Мы працягваем бязвыплатную кніжную акцыю.

Найбольшыя праблемы арганізацыя мае з газетай "Наша слова". Хоць і выходзіць яна своечасова, ні адзін выпуск не сарваўся, чытачы маюць шмат абгрунтаваных прэтэнзій. Таму з падпіскай справы кепскія. Пры наяўнасці 5,5 тыс. сяброў ТБМ падпісантаў – усяго 1800. Тым не менш мы павінны зрабіць усё магчымае, каб давесці наклад да 5000 асобнікаў. Тады не будзе праблемы, дзе ўзяць грошы на газету і як зрабіць яе цікавай і пісьменнай. У адваротным выпадку газета не зможа доўга існаваць. "Наша слова" мае сваю старонку ў Інтэрнеце. З ёй могуць пазнаёміцца чытачы ва ўсім свеце. Праўда, англамоўныя матэрыялы з'яўляюцца рэдка. Няма перакладчыкаў.

Стабілізуецца матэрыяльна-фінансавае становішча аб'яднання. Сродкі Таварыства за 1999 год склалі 1.717.701 тыс.руб. З іх 110.530 тыс.руб. – сяброўскія складкі і 1.597.171 тыс. руб. – ахвяраванні.

Гэтыя сродкі былі выдаткаваныя на арэнду памяшкання (264.389 т. руб.), аплату камунальных паслугаў (429.907 т.руб.), тэлефонных размоў і Інтэрнет (474.827 т.руб.), на заробак (262.675 т.руб.), іншыя выплаты (191.887 т. руб.). Адлічэнні на сацыяльныя патрэбы склалі 97.016 т.руб.

Балансавы прыбытак (2.456 т.руб.) пайшоў на аплату падаткаў і штрафу. Невядома за што нас аштрафавалі на 37.111 т. руб. Неразмеркаваная страта за 1999 год склала 35.712 т. руб.

Улічваючы інфляцыю і цяжкае фінансавае становішча Таварыства, лічу неабходным сябрам ТБМ здаць складкі за 2000 год да 1 чэрвеня. Гэтая прапанова ўключана ў праект пастановы Рады "Аб выніках дзейнасці ТБМ за апошні пасля з'езду год".

Дзейнасць Таварыства даволі шырока асвятляецца ў прэсе. Мы асабліва ўдзячныя "Народнай Волі" і яе галоўнаму рэдактару Іосіфу Сярэдзічу. Гэтая газета амаль штодня друкуе нашыя матэрыялы. Дарэчы, амаль усе супрацоўнікі рэдакцыі з'яўляюцца сябрамі Таварыства.

Ніколі не адмаўляюць нам і іншыя газеты, як незалежныя "Наша свабода", "Наша Ніва", "Беларуская маладзёжная", "Рабочы", так і дзяржаўныя "Культура", "ЛіМ", "Чырвоная змена", "Раніца", "Звязда", "Настаўніцкая газета".

Дзякуючы гэтаму, вядомасць і папулярнасць Таварыства пашыраецца і расце з кожным днём.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што за год пасля з'езду арганізацыя вырасла структурна і ўмацавала свае пазіцыі.



№ 20 (457) 24 ТРАЎНЯ 2000 г. наша слова

Віктар Астрога

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў БЕЛАРУСКІМ ВОЙСКУ (1992 – 2000 гг.)

*(па матэрыялах газ. “Во славу Родины”)*

Даклад навукова-практычнай канферэнцыі “Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы” 26 лютага 2000 года

Як вядома, новы этап у гісторыі беларускай нацыянальнай вайсковасці пачынаецца з верасня 1991 г., калі Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб неабходнасці будаўніцтва нацыянальнага войска ў суверэннай рэспубліцы. Вось тут у хуткім часе і сутыкнуліся беларусы з праблемаю статусу сваёй мовы ў збройных сілах, праблемаю, якая перыядычна давала аб сабе знак на працягу двух апошніх стагоддзяў. Зараз мы бачым, што перыяд нядаўняй беларусізацыі праляцеў яшчэ хутчэй, чым у даваенны час, проста маланкава і ў недасканалай форме, толькі павярхоўна закрануўшы войска, хаця ўжо з 1990 г. дзейнічаў “Закон аб мовах”, які з набыццём рэальнай незалежнасці краіны мусіў распаўсюдзіцца і на вайсковую сферу, у чым тады ніхто і ня меў сумневу. Напрыклад прадстаўнікі замежных краінаў. Асабліва адказна паставіліся амерыканцы. Так у ліпені 1992 г. на пытанне журналіста “Чаму затрымліваецца прыезд амерыканскай вайсковай місіі на Беларусь?”, вайсковы аташэ ЗША Д.Рэперт адказаў: “ У вас ёсць закон, што будзе толькі адна афіцыйная мова ў вашай краіне – беларуская. У нас мала беларускамоўных. Калі можам часова працаваць па-расейску – тады лягчэй. Калі ж мы мусім размаўляць па-беларуску, мы павінны навучыць будучых супрацоўнікаў на працягу шасці месяцаў”.

Уласна беларускія вайскоўцы напачатку занялі насцярожаную альбо пазытыўную пазыцыю, адкрытага незадавальнення не сустракалася. Выдатным паказчыкам гэтых адносінаў магчыма лічыць асвятленне становішча мовы ў нацыянальным войску на старонках былой акруговай газеты “Во славу Родины”. У ёй, як у люстры, адбіліся ўсе тэндэнцыі развіцця і зменаў статусу мовы. А прааналізаваўшы колькасць беларускамоўных матэрыялаў, што змяшчаліся ў газеце, мажліва ўявіць даволі аб'ектыўную карціну агульнага стаўлення Міністэрства Абароны да гэтай справы на працягу амаль дзесяці мінулых гадоў.

“Во славу Родины” на сваіх старонках распачала беларусізацыю войска з 1992 году. Ужо 3 студзеня галоўны рэдактар пісаў: *“... **на сваіх старонках будзем прадстаўляць слова людзям розных поглядаў і перакананняў, павядзем размову аб вайсковым гонары, традыцыях беларускага народу ... мы будзем рупіцца рабіць усё для таго, каб праўда, сацыяльная справядлівасць у нашых публікацыях перамагла... а “Во славу Родины” сапраўды стала незалежнаю беларускаю вайсковаю газетаю.”***

1992 г. Ён стаў сапраўды ўзлётным для беларускай мовы. Са студзеня, амаль штодэкадна пачаў выходзіць спецвыпуск “Паходня”, падрыхтаваны Янкам Саламевічам і супрацоўнікам рэдакцыі падпалкоўнікам С.Асіноўскім. У ім чытачам прапаноўвалася карысная і цікавая інфармацыя па беларускай філалогіі, гісторыі, асабліва вайсковай, і фальклору. Гэтую рубрыку нават адзначылі на БТ. А пасля таго, як калегія Мінабароны прыняла праграму паступовага пераходу на беларускую мову, а сам міністр ген.-палкоўнік Казлоўскі заявіў, што тыя, хто хоча служыць у Беларускім Войску, павінны ведаць мову, газета пачала друкаваць “Урокі беларускай мовы”. Рэдакцыя не хавала і праблемы ў гэтай галіне. Так 4 жніўня былі прыведзеныя вынікі сацыялагічнага апытання ў адной з вучэбных частак. У ёй беларускую роднай называлі 35%, расейскую – 37%, беларускай валодалі 18%, разумелі – 68%, не разумелі – 14%, але разам з тым 75% курсантаў адмоўна выказаліся за ўвядзенне мовы ў войска. Але беларусізацыя ішла, і газета друкавала беларускамоўныя матэрыялы амаль у кожным выпуску. У выніку, на лістападаўскай Рэспубліканскай Радзе ТБМ нацыянальная праца вайсковай газеты была адзначана вельмі станоўча.

1993 г. У гэтым годзе папулярызацыяй мовы працягвалася з няменшым імпэтам, тым больш, што з 1 студзеня ва ўсім Войску пачалося планавае 56-гадз. Навучанне мове. Таксама напрыканцы лютага было паабяцана, што хутка газета павялічыць колькасць беларускамоўных матэрыялаў. Аднак ужо з 2-й палловы года на старонкі выдання пачынаюць асцярожна трапляць артыкулы і чытацкая пошта, якія сеялі ў чытацкай масе зерні абыякавасці да мовы, адчуванне яе непатрэбнасці і нават неэканамічнасці адмовы ад расейскай. Але гэта пакуль што адбывалася на тле добрых колькасна і якасна агульных паказчыкаў друкавання беларускамоўнага матэрыялу.

1994 г. Ужо напачатку года сталі адчувацца змены стаўлення Мінабароны да беларускай мовы. Адзнакі і дадзеныя ТБМ аб стане мовы ў войску не прыводзіліся. Колькасць беларускамоўных артыкулаў пачала рэзка змяншацца, таксама нарысы нацыянальнай вайсковай гісторыі і замяняюцца на прапаганду суседняй расейскай і мінулай савецкай. У ліпені галоўны рэдактар агучыў новае крэда газеты: “***Мы ... не пашырылі газетным словам чужацкай нам маралі, трызнёных ідэй нацыянал-патрыётаў.***” Як вынік абнаўлёнай палітыкі, колькасць беларускамоўных матэрыялаў у параўнанні з 1993 г. зменшылася амаль у 2,5 разы з перыядычнасцю праз 4-5 нумароў.

1995 г. Тэндэнцыя змяншэння матэрыялаў на беларускай мове захавалася і ў гэтым годзе. Асабліва яскрава стаўленне газеты вайсковага ведамства да мовы беларусаў, праявілася пасля сумнага травеньскага рэферэндуму, калі ўжо ў наступным квартале за 3 месяцы было надрукавана толькі 4 беларускамоўныя матэрыялы ў амаль 60 нумарах, нягледзячы на тое, што газета ў чэрвені пісала: “***Пазіцыя наша – пісаць толькі праўду адстойваць дабро ... не лукавіць, не ўдзельнічаць у палітычных інтрыгах ... максімум інфармаванасці і прынцыповасці...***”.

1996 г. З гэтага году матэрыялаў на беларускай мове ў газеце становіцца настолькі мала, што “Во славу Родины” без асаблівай памылкі мажліва называць рассійскамоўнай. Больш 4 беларускамоўных артыкулаў у квартал штодзённая газета проста не друкуе. Цікава , што ў гэтым годзе змешчаны ліст чытача пад назваю: “Родную мову трэба ведаць”, але да войска ягоны змест аніякага дачынення не меў, тычыўся іншых сфер. “***Беларуская мова, пісалася ў ім, стала разменнаю манетаю ў палітычных гульнях***” і рабілася глыбокая выснова, што “***трэба быць інтэрнацыяналістам, а не нацыяналістам. Яны (інтэрнацыяналісты В.А.) любяць сваю Беларусь і паважаюць іншыя народы.***” Аднак па ірoніі лёсу, менавіта ў наступным квартале газетаю ўпершыню быў пастаўлены своеасаблівы рэкорд, за 3 месяцы быў надрукаваны толькі адзін беларускамоўны артыкул. Вось і каханне. Узровень колішняй аднамоўнай акруговай газеты быў вернуты.

1997-99 гг. Гэтай жа “мінімалісцкай” палітыцы ў дачыненні да нашай мовы, дзясятак беларускамоўных артыкулаў на амаль тры сотні нумароў – каля тысячы артыкулаў і нататак, гэта быў мізэр, долі атсотка. Пару вершаў, пару артыкулаў аб беларускай культуры альбо кароткіх апавяданняў аб ветэранах Вялікай Айчыннай, вось і практычна і ўся тэматыка. Гэткае ненармальнае становішча дэсаніравала нават з афіцыёзам Упраўлення выхаваўчай працы і інфармацыі Мінабароны наконт мовы беларусаў: “***Рэферэндум, уключаючы і пытанне аб мовах, паказаў, што большасць жыхароў рэспублікі выказалася за роўнасць беларускай і расейскай моў. Дзвюхмоў'е на Беларусі не навязана гвалтам. Зразумела, тыя дзеячы культуры, якія шчыра турбуюцца за нацыянальныя каштоўнасці, у тым ліку і за мову, заслугоўваюць найглыбокай павагі. Бо ненармальным ёсць стан, калі людзі іншых нацыянальнасцяў доўгія гады жывуць на Беларусі, і не валодаюць мовай карэннай нацыі. Інакш як знявагаю да культуры гэтай нацыі, ды і да самой нацыі вызначыць гэтага нельга***”.

Гэткім чынам, на сёняшні час мажліва канстатаваць, што праблем з роднаю моваю ў нашага Войска няма, бо і мовы беларускай там няма. З якою хуткасцю вайскоўцы занядбалі вялікшую нацыянальную каштоўнасць бачым на прыкладзе “Во славу Родины”, наяўнасць беларускамоўных матэрыялаў у якой вымалёўвае наступную тэндэнцыю ў гэтай галіне: 1992 г. – 104 беларускамоўныя матэрыялы, 1993 – 160, 1994 – 66, 1995 – 52, 1996 – 13, 1997 – 10, 1998 – 9, 1999 – 9. Дарэчы за ўсе чатыры парэферэндумныя гады (1996-99г.г.) было надрукавана ў 4 разы менш артыкулаў на беларускай мове, чым у найбольш спрыяльным 1993 г., а ў мінулым 1999 г. нават у 17 разоў менш.

У выніку на сённяшні час, Беларусь - адзіная краіна ў СНД, не кажучы ўжо аб еўрапейскіх краінах, войска якой размаўляе не на роднай мове, а на мове суседняй дзяржавы, праз што як мінімум губляецца галоўная адметнасць любога нацыянальнага войска, што ператварае яго не ў абаронцу свайго краю, а ў вартаўніка нейкай прасторы.




## Шанцаў роднай мове не пакінулі

Нядаўна ў Слуцку ў Доме культуры, з падачы лідэра БПСМ Усевалада Янчэўскага, пры актыўнай падтрымцы гаррайвыканкамаў і мясцовых камітэтаў гэтай маладзёвай арганізацыі, прайшла рэспубліканская акцыя-вечарына “Дадзім шанц маладым”. У залу сабралі маладых перадавікоў вытворчасці з горада і раёна, энтузіастаў педагагічнай справы, спорту, культурна-асветніцкай работы. Сталічны госць з трыбуны напомніў ім ва ўступным слове, што “У рэспубліцы створаны ўмовы для самазацвярджэння, адаптацыі ў грамадстве маладых людзей, дзякуючы ўважлівым адносінам прэзідэнта да праблем юнакоў і дзяўчат”. Ні больш, ні менш. А затым пераможцам спаборніцтва ў прафесійных намінацыях былі ўручаны граматы ЦК БПСМ і каштоўныя падарункі, а завітаўшыя на вечарыну сталічных эстрадныя артысты далі канцэрт. Усё гэтае зноў было пастаўлена па загаддзя прадуманай праграме. На вялікі жаль, у ёй, за выключэннем дыктараў нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Ірыны Смольскай і Алеся Байкова, якія вялі вечарыну на беларускай мове, усе выступаўшыя з трыбуны маладыя людзі гаварылі толькі па-руску – з арыентацыяй на сталічнага лідэра БПСМ. Нават маладая мясцовая паэтэса, настаўніца адной з гарадскіх школ, (прэзентацыя першай кніжкі яе нядрэнных беларускіх вершаў праходзіла ў гэтай зале год таму) не адважылася загаварыць з трыбуны на матчынай мове. Засаромелася? Ці збаялася?

І праўду піша нам вядомы пісьменнік Янка Сіпакоў, што яшчэ зусім нядаўна гаварыць па-беларуску было небяспечна, кожны, хто гаварыў так, імгненна залічваўся ў “нацдэмы” ці “ворагі народа”. Няўжо гэты жупель сталінскага таталітарызму так і сядзіць дагэтуль у нашых душах, не дазваляе ім выпрастацца, з годнасцю заявіць перад манкрутамі ўсіх рангаў: “Я – беларус!”

***Мікола Кутнявецкі.***

## Беларускую мову – на бланкі і дакументы

Напярэдадні новага года кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы звярнулася ў Канстытуцыйны суд з просьбай пасадзейнічаць таму, каб усе бланкі афіцыйных дакументаў міністэрстваў і ведамстваў выдаваліся не толькі на рускай, але і на беларускай мове. Канстытуцыйны суд у сваю чаргу звярнуўся з адпаведнай просьбай ва ўрад. Як вынік – з’явіўся ліст за подпісам прэм’ер-міністра Сяргея Лінга, у якім ён абавязвае кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання, аб’яднанняў, падначаленых ураду, аблвыканкамаў і Менскага гарвыканкама абавязкова выконваць патрабаванні заканадаўства аб ужыванні ў афіцыйнай перапісцы і на бланках дзвюх дзяржаўных моў.

-Сапраўды, у асобных выпадках патрабаванні Канстытуцыі, якая гарантуе роўныя правы абедзвюм дзяржаўным мовам, у афармленні афіцыйных дакументаў не выконваліся, - сказаў прэс-сакратар прэм’ер-міністра Іван Знаткевіч. – Таму ліст прэм’ер-міністра – заканамерная рэакцыя на гэтыя парушэнні і на зварот Канстытуцыйнага суда. Гэта не першы крок урада па ўкараненні беларускай мовы ў дзяржаўных установах нароўні з рускай. Скажам, ужо даволі працяглы час пастановы Савета Міністраў выдаюцца па-беларуску.

-Але ж нават калі раўнапраўе моў не парушаецца – калі бланкі двухмоўныя – пры іх запаўненні пераважае найчасцей мова руская. Ці зменіцца сітуацыя зараз?

-Размова пакуль ідзе найперш аб афармленні. На якой мове будзе пісацца тэкст – залежыць ад кожнага чыноўніка індывідуальна. Але калі беларуская мова будзе паўсюль фігураваць на афіцыйных паперах, магчыма, яна хутчэй з’явіцца і ў тэкстах, якія пішуць чыноўнікі.

-Якім чынам будзе ажыццяўляцца кантроль за выкананнем распараджэння прэм’ер-міністра?

-Перш за ўсё будзе правярацца правільнасць афармлення афіцыйнай перапіскі, якую вядуць з Саветам Міністраў і міністэрствамі арганізацыі, падначаленыя ўраду.

***Алена Ляўковіч.***

*Такой пазіцыі ўрада ТБМ удалося дасягнуць пры Лінгу, ці не давядзецца пачынаць усё спачатку пры Ярмошыну?*

**Алесь Петрашкевіч**

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

(Фарс у дзвюх дзеях)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Муравьёв.** Я категорически требую закрытого суда!

**Сапежанка.** Не бачу дастатковых падстаў.

**Муравьёв.** Уважаемый суд присяжных! Государственное обвинение протестует против поощрительного отношения председательствующего к пропаганде бело-красно-белого цвета, отвергнутого всенародным референдумом. И я требую: или сорвать с подсудимого импровизированное знамя антигосударственных сил, или удалить публику из зала суда.

*Ажыўляюцца прысяжныя засядацелі. Паміж імі нязгода.*



*Каліноўскі*

**Касцюшка.** Абарона звяртае ўвагу суда на беспадстаўныя заявы і антызаконныя патрабаванні дзяржаўнага абвінаваўцы як падсуднага, так і да суда. На маім падабароным няма ніякіх сімвалаў. На ім яго ўласная сарочка, якую ён "пафарбаваў" той чырвонай фарбай, якая пайшла горлам, калі яго білі крымінальнікі ў апошні раз. Як бы мовіць, яна яго кроўная, і ён вольны трымаць яе пры сабе, або далучыць да судовай справы, як рэчавы доказ, што можа быць даследаваны судовымі экспертамі.

**Сапежанка.** Суд лічыць заўвагу слушнай. А прысяжных прасіць строга прытрымлівацца ўстаноўленых правілаў іх паводзін у судзе.

**Муравьёв.** Извините, но я вынужден сделать заявление. Есть у меня такое право!

**Сапежанка.** Здзейсніце Ваша права...

**Муравьёв.** Уважаемая Фемида Львовна, Вы мне, так сказать, ассоциативно напоминаете ту судью, которая осудила антифашистский документальный фильм, а режиссёру присудила публично извиниться перед телезрителями республики, не предполагая, что именно за этот шедевр нашему вождю присуждён приз Московского кинофестиваля.

**Сапежанка.** Па-першае, я ўжо папярэджвала не ўспамінаць "всуе" імя...

**Муравьёв.** Потому я и настаиваю на закрытом заседании...

**Сапежанка.** Па-другое, майце элементарны такт і не перапыняйце суддзю!.. Па-трэцяе, яшчэ адна такая асацыятыўная заява, і вы будзеце адхілены ад удзелу ў гэтым працэсе!

Прадаўжайце допыт падсуднага, паважаны абвінаваўца...

**Муравьёв.** Извините, Фемида Львовна, но вопрос опять по ассоциации... Ответьте, подсудимый: Калиновский – это ваша подлинная фамилия или, так сказать, политический псевдоним?

**Каліноўскі.** Я таксама мог бы западозрыць, што вы сваяк Мураўёву-вешальніку, а прадстаўнік пацярпелага – святлейшаму князю і кату беларускага народа Сувораву Аляксандру Васільевічу...

**Сапежанка.** *(строга і патрабавальна).* Падсудны, адказвайце на пастаўленае пытанне!

**Каліноўскі.** І я, Кастусь Каліноўскі, і мой абаронца Андрэй Касцюшка носім прозвішчы сваіх прашчураў, якія ў свой час даліся ў знакі і прыгаданым крываваму фельдмаршалу і не менш крываваму генералу.

**Муравьёв.** Стало быть у вас наследственный мятежный дух и страсть к убийствам.

**Каліноўскі.** У нас ад іх бессмяротнае свабодалюбства. А ў вас, відаць, якраз тая самая "страсць". *(Амаль крычыць).* Я яшчэ раз заяўляю, што не забіваў Іванова-Чынгізханова! Паказанні супраць сябе з мяне выбілі крымінальнікі па волі следчага, а можа, і па "вашему желанию, товарищ Муравьёв". Інакш вы б адрэагавалі на маю пісьмовую скаргу на следчага.

**Муравьёв.** Высокий суд, я исчерпал свои вопросы. Надеюсь, присяжным заседателям ясно, с кем они имеют дело.

**Сапежанка.** Прадстаўніку пацярпелага грамадзяніну Сувораву прадстаўляецца магчымасць расказаць усё, што яму вядома па справе, а пасля гэтага задаць пытанні падсуднаму. Суд папярэджвае вас, Аляксандр Васільевіч, аб крымінальнай адказнасці за дачу заведама іджывых паказанняў.

**Суворов.** Это мы знаем. И кой-какой опыт в судейских делах имеем... Когда мы с покойным Авангардом Батыевичем служили в органах, а затем в "смерше", что означает "смерть немецким шпионам", мы таких мерзавцев, как этот, в клетках не держали. Мы их отправляли к праотцам без суда и следствия, чем, между прочим, и обеспечили победу. *(Распісваецца ў Агінскай).*

**Сапежанка.** Аляксандр Васільевіч, давайце па справе і без абраз у адрас падсуднага. А то я баюся, вам на штрафы пенсіі не хопіць.

**Суворов.** Не извольте беспокоиться за мою пенсию. За неё главнокомандующий побеспокоился, так что штрафов на 25-30 хватит. И из зала суда вы меня не удалите. Я здесь представляю не самого себя, а интересы жертв политического террора. И права свои знаю.

**Сапежанка** *(ціха, але строга).* Пераходзьце да справы і гаварыце па сутнасці!

**Суворов.** Да "справы", уважаемая, мы перешли ещё ранним утром 9 мая. И у меня, и у моего боевого друга было прекрасное настроение. Мы уже знали, что главнокомандующий, городские власти, рабоче-крестьянская милиция и славный ОМОН на нашей стороне и приняли соответствующие меры. И мы встали на пути с...ых дермократов...

*Сапежанка звоніць у званочак.*

... к монументу нашей Победы монолитной большевистской стеной и сказали себе: "Они не пройдут!" И они не прошли!.. В этой связи я категорически ставлю вопрос подсудимому: где он был во время манифестации ветеранов-патриотов по случаю дня Победы?

**Каліноўскі.** "Впереди дивизии на боевом коне!" – як гаварыў Васілій Іванавіч.

**Суворов.** Под флагом БНФ?!

**Каліноўскі.** Пад нацыянальным бел-чырвона-белым штандартам з Пагоняю. Відавочна, што калі б я ішоў ці ехаў пад масульманска-бальшавіцкім чырвона-зялёным з гербам-капустай, то не сядзеў бы зараз у клетцы, як некалі Ямелька Пугачоў, паланёны вашым аднафамільцам.

**Суворов.** Что и требовалось доказать!

**Муравьёв.** Прошу суд занести в протокол оскорбительные слова подсудимого в адрес государственного флага и герба Белоруссии.

**Каліноўскі.** Беларусі! Рэспублікі Бе-ла-ру-сь!

**Сапежанка** *(крануўшы званочак).* Падсудны, трымайце сябе ў рамках дазволенага... Прадаўжайце, грамадзянін Сувораў.

**Суворов** *(здзекліва).* Многоуважаемые присяжные заседатели! Товарищ судья! Братья и сёстры, сидящие в этом зале и за его пределами! Когда мы столкнулись грудь в грудь на проспекте товарища Сталина, переименованного некогда в Ленина, а затем в мракобеса-католика Скорину, надо было видеть, каким национал-фашистским взглядом наградил меня этот убийца, место которому даже не в клетке, а на виселице, на электрическом стуле, на осиновом суку!

**Сапежанка** *(кранае званочак).* Сведка Сувораў, калі ласка, без эмоцый і па справе.

**Суворов.** Спасибо за внимание, но без эмоций, боюсь, не получится. Во-первых, как говорится, строках, я не просто "сведка", а во-вторых, я сторона в процессе. И я от имени миллионов защитников социалистического Отечества обвиняю этого заклятого врага советского народа и всего прогрессивного человечества в варварском лишении жизни не просто человека, а Человека с большой буквы, Человека-героя, Человека-борца, который всю свою боевую жизнь звучал гордо!



*Суворов*

**Сапежанка.** Аляксандр Васільевіч, калі ласка, па справе. Мы ж не на мітынгу.

**Суворов.** Хорошо! "па справе". Скажите, подсудимый, то, что вы превратили себя в рекламную тумбу и демонстрируете здесь национал-фашистский символ, видимо, подтверждает ваши особые симпатии к так называемому, Белорусскому Народному Фронту? Отвечайте!..

**Каліноўскі.** Сімпатый не адмаўляю, хоць у шэрагах, на жаль, не састаю. А такіх на сёння ўжо не адзін мільён. І здаецца мне, што Беларускі Народны Фронт на сёння – гэта тое адзінае чыстае і сумленнае, што яшчэ ацалела і засталося ад нашага дэнацыяналізаванага, раздушанага народа і збанкрутаванага грапмадства.

**Суворов.** *(крычыць).* Заткните ему глотку!...

**Каліноўскі.** Перакананы, што народа-франтаўцы стануць для Беларусі тым, чым дзекабрысты сталі для Расіі. Некаму ж трэба было першымі выйсці на Сенацкую плошчу! А што да бел-чырвона-белага колеру, які тут не аднойчы абражалі, то абразіць яго больш нахабна, чым гэта зрабіў прэзідэнцкі "завхоз", проста немагчыма.

**Суворов.** Его отвергла вся нация!

**Каліноўскі.** Менш паловы затурканых выбаршчыкаў...

**Сапежанка** *(настойліва звоніць у званочак).* Спыніцеся! Тут не дыскусійны клуб. Падсудны, сядзьце!.. Ці ёсць пытанні ў дзяржаўнага абвінаваўцы да прадстаўніка пацярпелага?

**Муравьёв.** Вопросов не имею.

**Сапежанка.** Абаронца падсуднага, вашы пытанні...

**Касцюшка.** Літаральна некалькі ўдакладненняў... Скажыце, спадар Сувораў...

**Суворов** *(узбуджана).* Суворов вам не "спадар", не "пан" и не "гаспадзін"!

**Касцюшка.** Даруйце, але ж які таварыш Суvoраву спадар Касцюшка?..

**Суворов** *(агрэсіўна).* Гражданин я! Гражданин Союза Советских Социалистических Республик! И таковым останусь до гробовой доски и глубже!

**Касцюшка.** Скажыце, грамадзянін Сувораў...

**Суворов** *(цвёрда).* Граж-да-нин, а не ваш собачий "грамадзянін"! Су-во-ров, а не Су-во-раў, или я тоже потребую переводчика!..

**Сапежанка.** Уважаемый защитник, я вас прошу, на русском, пожалуйста, для представителя патерпевшего...

**Касцюшка.** Ради Бога. Уважаемый господин Суворов, будьте любезны, скажите: во время столкновения так называемых "красно-зелёных" с "бело-красно-белыми" подсудимый допускал какие-либо действия или угрозы по отношению к вам и вашему другу Иванову-Чингизханову. Если да, то в чём это выражалось?

**Суворов.** В матерщине, а то в чём ещё выражалось?! Клеймил нас курвами, холуями и, прошу прощения, бл...ми в смысле политических проституток. Ещё пытался ударить Авангарда Батыевича ногой, прошу прощения, в пах. А каким националистическим взглядом он нас одарил!.. Надеюсь суд меня понимает. Хватал за горло и его и меня.

**Касцюшка.** Такая яростная агрессивность, видимо, вызвала у вас некое опасение, тревогу, в конце концов, страх. Все под Богом ходим...

**Суворов.** Ясно вызвало. Мы что – божие одуванчики, а он вон каков бугай!

**Касцюшка.** И вы ни к кому не обратились за помощью... Не проводили товарища хотя бы до бара, если уж не до дома.

**Суворов.** А кто мог подумать, что он порешит его среди бела дня.

**Касцюшка.** А что бы вы могли ответить, если бы я вам сказал, что мой подзащитный не матюкался, не одарил вас националистическим взглядом, не пытался ударить ногой в пах вашего друга Иванова-Чингизханова и вообще не был там, где столкнулись колонны "красно-зелёных" с "бело-красно-белыми".

**Суворов** *(разгублена).* А где же он тогда был?

**Касцюшка.** В другой стороне. И совсем не на белом коне во главе дивизии.

**Суворов.** Это как же понимать?

**Касцюшка.** Как ловушку, которую мы с подсудимым вам поставили, а вы в неё невзначай влезли... Так что теперь придётся нести ответственность за дачу ложных показаний.

**Суворов** *(ачомаўшыся ад збянтэжанасці).* То, что убийца сам написал пером, не вырубишь топором!

**Касцюшка** *(да суддзі).* Больш пытанняў не маю.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Давайце спяваць па-беларуску

## ГАВОРКА БЕЛАРУСКАЯ

Музыка і словы Міхася Скундзя







Матулін голас спяваў мне песні
На роднай мове ў дзяцінства час.
І я з гадамі ўсведамляўся:
Яна не горшая ў нас.

**Прыпеў:**
Яе пазнаю я яшчэ здаля.
Мне мілую, як родная зямля,
Гучыць напеўна, бы мелодыя,
Гаворка беларуская.

Ёй карыстаўся мой дзед, мой прадзед
Ад першых да апошніх дзён.
І як ёй мне, нашчадку, здрадзіць?
Ім здрада будзе як праклён.

**Прыпеў.**

# *Жывая кніга прыроды*

**Для педагогаў дашкольных установ. Укладальнік Ірына Марачкіна**

### СМАРЖОК

З моху выбіўся смаржок,
Пахінуўшыся набок.
Ён глядзеў кудысьці ўбок.
Вось крутнулася вавёрка
На сасонцы ля пагорка,
Лёгкі хвосцік, нібы пёрка:
- Што за грыб? Ён малады,
А маршчыны ў тры рады,
І гарбаты і худы.
Тупнуў дрозд, задраўшы хвост:
- Невялікі грыб на рост,
Мае ж ён вялікі кошт.
Ты, вавёрачка, не смейся,
Сядзь ля грыба і пагрэйся… -
Сам на цёплы мох усеўся:
- Не такі ўжо грыб бядак,
Шмат маршчынак - гэта так,
Ды цудоўны ён на смак.

*Станіслаў Шушкевіч.*

### ГНЯЗДЗЕЧКА

Я знайшоў за рэчкай
Куст парэчак,
А пад ім гняздзечка –
Пяць яечак.
Днём, як вартавы, я
Там, пры птушках,
Сню яечкі тыя –
У вяснушках.
Не сказаў нікому,
Дзе гняздзечка,
Сам не ўзяў дадому
Ні яечка.
Як разгорнуць крылы
Птушаняты,
Вам сакрэт адкрыю,
Дашкаляты:
Пакажу за рэчкай
Куст парэчак,
А пад ім гняздзечка –
Без яечак.

*Мікола Маляўка.*

### БУСЕЛ

Даўганогі землямер
Схапіў жабу за каўнер.
Па траве павалачыў,
У канаве намачыў,
Вострым носам дзеўбануў
Уздыхнуў і – праглынуў.

*Васіль Вітка.*

### КВЕТКА – СОН У ЦІХІМ ЛЕСЕ

Кветка-сон зачаравала
Усе дубы, бярозы ў лесе.
Нібы сну было ім мала,
Калі плыў па небе месяц.
Ён свяціў. Спускалі веццe
Ліпы, вольхі, елкі, хвоі…
А цяпер жа сонца свеціць,
Ды яны ў нямым спакоі.
Над крыніцай спіць каліна,
І асіна спіць старая,
І сагнулася ляшчына,
І вярба, як нежывая.
Салаўя не зачаруе,
Бо спявае калыханку,
І зязюля не кукуе,
Бо заснулі сёння зранку.
Кветка-сон зачаравала
Майскім ранкам лес зялёны,
На паляны, на прагалы
Пахілілі дрэвы кроны.

*Станіслаў Шушкевіч.*



### МАЙСКІ ЖУК

Пад бярозай ветрык змоўк,
Ды трапечацца лісток,
Ні на момант не сціхае:
Майскі жук яго гайдае:
- Што ты робіш тут, жучок?
- Ах, сусед, дзівак ты гэткі!
Выразаю я сурвэткі.
- Дзе ж абрэзачкі, жучок?
- Не смяціць жа, павучок,
Я абрэзачкі глытаю
І вадою запіваю.
Прашаптаў ледзь-ледзь лісток:
- Ветрык, родны мой браток,
Скінь абжору на траву,
Я пад сонцам ажыву.

*Ніна Галіноўская.*

### ЛАСТАЎКА

Зеляneў пявучы май,
Да зямлі прыпаўшы.
Закахаўся папугай
У ластавачку нашу.
Не пяюн, а лапатун.
Рыжы, як з пажару,
Можа, ён і прыгажун,
Ластаўцы – не пара.
Ластавачка над зямлёй
Нізка пралятала
І на мове на сваёй
Гэтак шчабятала:
- Вопратку тваю хвалю,
Гонар – паважаю.
Усё ж, скажу,
Я не люблю
Розных папугаяў,
Што дзяцей пужаюць.
Калі хочаш з намі жыць,
Есці нашы мушкі,
Навучыся гаварыць
Лепш па-беларуску.

*Ларыса Геніюш.*

### НАШЫ ПТУШКІ

У нашым краі – Беларусі –
Ёсць буслы, сарокі, гусі,
Качкі, чыбісы, саколкі,
Чаплі, совы, перапёлкі,
Каршуны, сіваваронкі,
І шчыглы, і жаваронкі,
Галкі, крумкачы, вароны,
Галубочкі нахахлёны,
Дзятлы, чыжыкі, зязюлі,
Кулікі, сяўцы, жаўнулі,
шпакі, зяблікі, цяцеры,
Курапаткі пер'ем шэры,
Ластаўкі і верабейкі,
І сініцы, салавейкі,
Сойкі, пігіліцы, удоды,
Што лятаюць без ахвоты.
Каля рэчак, на лужайках
Ёсць глушцы, стрыжы і чайкі,
І вядуцца на балотах
Жураўлі ў густых чаротах;
Па надворку, каля хаты,
Ходзяць куры й кураняты.
Хто сакоча, хто кудахча,
Хто па стрэхах спрытна скача,
Хто на кусціку ў садочку,
Хто на полі, хто ў лясочку,
Хто высока ў паднябессі
Моўчкі ўецца або з песняй:
Пахнуць хорам – не здзівіцца.
Ёсць дзе пець і весяліцца.

*Алесь Гурло.*

### ЗАЙЧЫКІ

**Казка**

Селі два зайчыкі ў лясочку пад бярэзінкаю, грэюцца на сонейку і гутараць.

А ў лясочку так добранька!.. Мушкі гудуць, адна за адною ганяюцца, крыльцамі звоняць, як бы смяюцца. А там дроздзік пасвіствае, хлопчыка Піліпку падражнівае:

- Пілiп! Піліп!

А Піліпка па верасочку з кошыкам ходзіць, на баравічкі прыглядаецца.

Яшчэ далей зязюлька кукуе.

Ну так ясна, цёпла, весела!

Але нявесела зайчыкам, нявясёлыя гутаркі іх.

- Ох, якая горкая долечка наша, - кажа адзін зайчык.

- Бойся кожны дзянёчак, трасіся кожную часінку, хадзі, прыслухоўвайся, ці не ходзіць вораг твой блізка.

- А колькі ў вас ворагаў? Хто толькі не крыўдзіць нас, бедных зайчыкаў?

- Крыўдзяць нас людзі, крыўдзяць звяры; нават птушкі-драпежнікі – каршуны, совы, пугачы – і тыя нас, зайчыкаў, ушчуваюць.

- І як бараніцца нам ад злых нашых ворагаў? Чым ратавацца? Адна толькі на-дзея на нашы ножкі: выбавяць з бя-ды, - наша шча-сце, а не выбавяць – прапала наша скурка!

І заплакалі горкенька зайчыкі.

Плачуць і слёзкі лапкамі выціраюць.

- Ці ж можна нам жыць на свеце? – кажа другі зайчык. – Ніхто не баіцца нас, ну, ніхтосенькі!.. Пойдзем, хіба, ды ў ваду кі-немся.

Наплакаліся, надумаліся бед-ныя зайчыкі і пайшлі ў возера тапіцца з гора. Прыйшлі да возера, прыпыніліся, развіталіся. Да самага беражка падышлі, каб у ваду кінуцца, аж бачаць - скок жаба на купіну: убачыла зайчыкаў і спалохалася.

- Эге, – кажа адзін зайчык, – ёсць жа на свеце стварэнні, што і нас баяцца. Відаць, ім яшчэ цяжэй на свеце жыць. Глянулі зайчыкі адзін на аднаго і пабеглі назад у лясок.



### ЗАГАДКІ

З-пад снегу выйшла,
Расцвіла, і так,
Што аж зіма ўцякла.
*(Пралеска.)*

Стракаты, крылаты –
Руплівец лясны,
Лекар заўзяты
У хворай сасны.
*(Дзяцел.)*

Працаўніца шчыравала,
Мех арэхаў назбірала.
І грыбоў шмат насушыла,
Спелых шышак нанасіла,
Прыхавала ўсё ў дупло,
Каб зімой на стол было.
*(Вавёрка.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых стасункаў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
***WEB-старонка:*** http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 22. 05. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 1313
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
***Кошт у розніцу:*** 35 руб.